

# GEFEST АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА «БРЭСТГАЗААПАРАТ»: ЯКАСЦЬ, КАМФОРТНАСЦЬ, ПРЭСТЫЖ



Будынак упраўлення АТ «Брэстгазаапарат».

**Асноўныя паказчыкі вытворча-гаспадарчай дзейнасці АТ «Брэстгазаапарат» за 11 мес. 1996 г.**

| № | Назва паказчыкаў | Адз. вым. | 1996 г. 11 мес. |
|---|---|---|---|
| 1. | Таварная прадукцыя ў супастаўных цэнах | млн. р. | 458.419 |
| 2. | Тэмп росту таварнай прадукцыі ў супастаўных цэнах | прац. | 100,1 |
| | у т. л. за III квартал | прац. | 128,3 |
| 3. | Пліты газавыя 4-гарэлачныя | тыс. шт. | 343,6 |
| 4. | Адгружана па рэгіёнах: | тыс. шт. | |
| 4.1 | у Рэспубліку Беларусь | -»- | 130,6 (38%) |
| 4.2 | у Расійскую Федэрацыю | -»- | 182,1 (53%) |
| 4.3 | ва Украіну | -»- | 13,7 (4%) |
| 4.4 | у Латвію | -»- | 6,8 (2%) |
| 4.5 | у іншыя краіны СНД | -»- | 10,4 (3%) |
| 5. | Балансавы прыбытак за 10 мес. | млн. руб. | 90.160 |
| *6.* | *Усяго ўплачана падаткаў і непадатковых плацяжоў за 10 мес.* | *-»-* | *73.373* |

## Міхаіл ІОФЕ, генеральны дырэктар акцыянернага таварыства «Брэстгазаапарат»:

# «НАШЫ ПЛІТЫ З МАРКАЙ «БРЭСТ» ПАКУЛЬ НЕ СТАЯЦЬ У АДНЫМ РАДЗЕ З «SIEMENS», «BOSCH» І «INDESIT», АЛЕ Ж МЕСЦА СЯРОД ІХ УЖО ЗАБРАНІРАВАЛІ»

*Бадай, у кожнай звычайнай сям'і кухня — своеасаблівы цэнтр сямейнага жыцця. Па некалькі разоў на дзень чалавек наведвае гэты куток кватэры, дзе сваё пачэснае месца займае, як няцяжка здагадацца, пліта. Значна радзей — электрычная, часцей — газавая.*

*Калі развіваць тэму апошняй, то ніяк нельга абысці аднаго з «бацькоў» гэтага віду бытавой тэхнікі — некалькі гадоў таму Брэсцкага завода газавай апаратуры, цяпер — акцыянернага таварыства «Брэстгазаапарат».*

*У часы Савецкага Саюза брэсцкае прадпрыемства па выпуску газавых пліт было адным з манапалістаў такой спецыфічнай прадукцыі на 1/6 частцы сушы. Пліты ішлі нарасхват.*

*Падзеі, за якімі адбыўся распад некалі вялікай краіны, не змаглі значна пахіснуць пазіцыі беларускіх вытворцаў ні на знешнім рынку, ні на ўнутраным, хоць аб'ёмы крыху прыйшлося скараціць — працэсы рыначных адносінаў на кожным прадпрыемстве пакінулі свой адбітак.*

*І ўсё ж акцыянернаму таварыству «Брэстгазаапарат» сёння можна толькі па-добраму пазайздросціць, і асабліва яго кіраўнікам, якія змаглі захаваць вытворчасць у самых складаных эканамічных умовах і застацца на плаву. Пра тое, як гэта ўдалося брэсцкім газаапаратчыкам, што яны збіраюцца рабіць далей, каб выжыць сёння «ў кампаніі» з імпартнай бытавой тэхнікай, і пра шмат што іншае наша размова з генеральным дырэктарам АТ «Брэстгазаапарат» Міхаілам Іофе.*



**— Міхаіл Фадзеевіч, шчыра кажучы, пасля штодзённага і шматразовага рэкламавання замежных газавых пліт такіх вядомых марак, як «Ariston», «Indesit», «Bosch», «Siemens» узнікае пытанне: а ці ёсць сёння месца на айчынным рынку брэсцкім плітам?**

— Спяшаюся вас запэўніць, што ёсць. І не толькі на ўнутраным, але і на знешнім.

Нашы пліты зараз ужо далёка не тыя, што нават некалькі гадоў таму. Іншая справа, што ім не хапае той жа рэкламы, на якую іншаземныя вытворцы бытавой тэхнікі грошай не шкадуюць.

Наколькі я ведаю, група Мерлоні, якая займаецца распаўсюджваннем італьянскай белай бытавой тэхнікі Indesit, Ariston, толькі ў гэтым годзе на рэкламную дзейнасць патраціла каля 30 мільёнаў долараў. Як вынік, яны змаглі заваяваць рынкі збыту ва ўсіх рэспубліках былога Саюза і дзякуючы такой рэкламнай агрэсіі толькі ў гэтым годзе змаглі прадаць тут звыш 250 тысяч газавых пліт.

**— За рэкламай, відаць, павінна стаяць і якасць адпаведная?**

— Безумоўна. Без якасці зараз нікуды, бо нават калі напачатку пасля шматлікіх тэлевізійных ролікаў і радыё-газетнай «лірыкі» вакол тавару і ўдасца зняць вяршкі, другі раз на поспех можаш не разлічваць. Як кажуць, падмануць можна толькі аднойчы.

Таму зараз мы ўшчыльную займаемся пытаннямі якасці сваёй прадукцыі, хоць і да цяперашняга часу яна вызначалася надзейнасцю. Не хапала крыху: дызайну, большай камфортнасці і рэкламы.

**— З-за чаго ваша прадпрыемства не магло канкурыраваць з замежнымі аналагамі.**

— Па вялікаму рахунку так. Хоць яшчэ гадоў пяць таму ні аб якой канкурэнцыі і размовы не магло ісці. На саюзным рынку імпартнай тэхнікі амаль не было. І мы з'яўляліся манапалістамі па выпуску газавых пліт, якія тады былі ў вялікім дэфіцыце. Аднак часы мяняюцца, і зараз прыходзіцца думаць, як дастойна прадстаўляць нашы пліты сярод грандаў вытворчасці сусветнай бытавой тэхнікі.

**— Ужо маюцца пэўныя напрацоўкі?**

— Так. Сёння трэба вельмі хутка рэагаваць на патрэбы рынку, інакш можна безнадзейна адстаць ад «моды».

Я ўжо сказаў пра якасць. Магу пахваліцца, што мы першыя сярод іншых прадпрыемстваў СНД такога ж профілю асвоілі новую серыю пліт, якія ўжо набліжаюцца да еўрапейскага ўзроўню і могуць свабодна канкурыраваць з замежнымі плітамі падобнага класа, але па меншай цане.

Для прыкладу. У Літве ёсць нашы дылеры, якія займаюцца рэалізацыяй не толькі брэсцкіх пліт, але і чэшскай фірмы «MORA». Дык вось, калі раней яны прадавалі іх у працэнтных адносінах дзесьці пяцьдзесят на пяцьдзесят, то зараз карціна змянілася: тры чвэрці ўсяго продажу складаюць пліты «Брэстгазаапарата» і толькі 25 працэнтаў — «MORA». А чэхі, я вам скажу, робяць вельмі прыстойныя пліты. І маюць еўрапейскі і амерыканскі сертыфікаты. І тым не менш, людзі аддаюць перавагу нашай бытавой тэхніцы.

**— Геаграфія паставак брэсцкіх газавых пліт ужо вывучана пакупнікамі?**

— Я ў гэтым не сумняваюся. Большая частка прадукцыі ідзе на расійскі рынак. Якасць брэсцкіх пліт таксама ведаюць ва Украіне, у Прыбалтыцы і ў рэспубліках Сярэдняй Азіі. У Беларусі ж з 380 тысяч выпускаемых штогод пліт застаецца прыкладна 25—30 працэнтаў.

**— Пра далёкае замежжа застаецца толькі марыць?**

— Не сказаў бы, бо першыя ластаўкі ўжо на падыходзе. Калі нічога надзвычайнага не здарыцца, то мы сертыфікуем сваю прадукцыю ў Польшчы, у будучым годзе, думаем, гандлёвая марка АТ «Брэстгазаапарат» з'явіцца ў Грэцыі. Ну, а на далейшае загадваць не бяруся, бо прагнозы ў сённяшняй эканамічнай сітуацыі рабіць цяжка. Можна і памыліцца.

А ўвогуле, калі казаць пра рынак збыту ў Заходняй Еўропе ці Азіі, то трэба адзначыць адну дэталь. Іншаземцы нас не чакаюць там, таму трапіць на рынак заходніх краін неверагодна цяжка.

Ён там ужо даўно насычаны белай тэхнікай. І знайсці там нейкую нішу надзвычай цяжка.

Акрамя таго, на руках трэба мець адпаведныя сертыфікаты на гэту прадукцыю. Але ж атрымаць іх таксама нялёгка.

Праўда, мы не збіраемся быць толькі ў ролі статыстаў на заходнім рынку. Сёння мы ўжо рыхтуемся да паходу за мяжу, хоць падрыхтоўка да яго патрабуе не аднаго года.

Як я ўжо неаднойчы ўпэўніўся, прарвацца на Захад можна толькі з вельмі высакаякаснай прадукцыяй пры выдатным дызайне, невялікіх агульных аб'ёмах пліты і г. д.

**— Міхаіл Фадзеевіч, вам не здаецца, што многае залежыць яшчэ і ад назвы прадукцыі?**

— Згодзен з вамі. І работа ў гэтым накірунку ўжо вядзецца.

Зараз з дапамогай нашых партнёраў у Кіеве ствараем новую іміджавую рэкламу, для чаго будзем скарыстоўваць новую гандлёвую марку. Дзесяткі гадоў нашу пліту ведаюць пад назвай «Брэст». Цяпер мы адыходзім ад гэтай назвы.

Думаю, мала хто ведае, што ў горадзе Фабрыяна выпускаецца Ariston, а ў Турыне — Indesit. Людзі ведаюць толькі гандлёвую марку, і ім гэтага дастаткова.

Дык вось, мы зараз таксама ўвялі новую гандлёвую марку, захаваўшы пры гэтым таварны знак. Назва навінкі — «Gefest».

Шчыра прызнаюся, што сёння на рынку белай бытавой тэхнікі столькі назваў, што цяжка знайсці такую, каб не паўтарыцца. «Gefest» — назва што трэба, і ўвесь свет яе ведае, няхай пакуль і не па брэсцкай газавай пліце. А для нас гэта сёння — галоўнае.

**— Значыць, новай гандлёвай маркай — па свядомасці замежных пакупнікоў...**

— Калі вам так хочацца сказаць, то няхай. Але ж мы выдатна ведаем, што толькі гучнай і прыгожай назвай ніякую крэпасць не возьмеш. Вельмі важным звяном у паспяховым продажы тавару з'яўляецца яго эстэтычнае афармленне, з-за чаго нашым плітам прыйшлося значна змяніць знешні выгляд. Мы закупілі на Захадзе шэраг матэрыялаў, дзякуючы якім брэсцкія пліты сталі значна прыгажэйшымі. Гэта фрыты эмаляў, асабліва белых, розныя фарбавальнікі, пластмасы і розная іншая, на першы погляд, дробязь, але для пакупніка яна вельмі важная.

**— Міхаіл Фадзеевіч, геаграфію паставак прадукцыі акцыянернага таварыства мы ўжо абмалявалі. Аднак усе шляхі той жа пліты пачынаюцца з аддзела збыту. Ці не так?**

**Наколькі я ведаю, прадаць тавар сёння часам цяжэй, чым вырабіць яго.**

— Рэалізацыя прадукцыі — гэта размова асобная, але надзвычай важная, бо зараз ні адно прадпрыемства працаваць на склад не можа, інакш яму пагражае банкруцтва.

Вядома, у часы размеркавання прадукцыі і цэнтралізаваных паставак матэрыялаў для яе вырабу ні аднаго кіраўніка прадпрыемства не хвалявала пытанне, куды прадаць выраблене. Зараз жа, перш чым выпусціць тавар з канвеера, ты павінен ведаць адрас яго пастаўкі. Менавіта наш завод працуе па гэтаму прынцыпу. Работа пад заказ дазваляе нам мець складскія запасы не больш чым на двое сутак.

Але ж нам хацелася б яшчэ больш эфектыўна працаваць на збыце, у сувязі з чым на прадпрыемстве створаны аддзел маркетынгу, супрацоўнікі якога валодаюць неабходнай ініцыятывай, ведамі і жаданнем працаваць.

Пачынаючы з І квартала наступнага года мы збіраемся яшчэ рэарганізаваць аддзел маркетынгу і стварыць сур'ёзную аналітычную службу.

Маркетынг, як паказвае час, — гэта цэлы шэраг накірункаў, а не толькі збыт. Канчатковая рэалізацыя — гэта, можна сказаць, фінішная прамая. А ўвогуле размова ідзе пра вывучэнне кан'юнктуры рынку ў нейкім асобным рэгіёне; аб цэнавай палітыцы ў кожным рэгіёне на аснове вывучэння пакупной здольнасці насельніцтва, аб'ёмаў жыллёвага будаўніцтва, наяўнасці сеткі рознічнага гандлю, а таксама стварэнні фірменных магазінаў і дылерска-дыстрыб'ютарскага прадстаўніцтваў.

І яшчэ вельмі важны накірунак маркетынгавай службы — збор інфармацыі аб якасці нашай прадукцыі і пажаданнях пакупнікоў наконт выпускаемай намі прадукцыі.

Ведаеце, зваротная сувязь паміж пакупніком і заводам павінна існаваць пастаянна. Ну, і не будзем забываць пра адпаведную рэкламную дзейнасць, без правядзення якой цяжка разлічваць на поспех у любой справе.

**— Намаляваная вамі карціна рэарганізацыі маркетынгавай службы мае на мэце значнае пашырэнне межаў паставак. Не баіцеся, што аб'ёмы вытворчасці спатрэбяцца такія, што ўсіх жадаючых задаволіць не будзе магчымасці?**

— Прызнаюся, што аб такім варыянце я не думаў, бо магчымасці завода намнога большыя за сённяшнія. Пасля набыцця рэспублікай самастойнасці, калі былі разарваны ледзь не ўсе эканамічныя сувязі з пастаўшчыкамі і пакупнікамі, нам прыйшлося прыкладна на 25 працэнтаў скараціць аб'ёмы вытворчасці. Дарэчы, іншыя саюзныя прадпрыемствы, што займаліся выпускам бытавой тэхнікі, страцілі па 50 і болей працэнтаў сваіх аб'ёмаў, з-за чаго выйсці на нармальны ўзровень работы не могуць дагэтуль. Па маіх падліках, заводы ва Украіне і ў Расіі прастойваюць па 2,5—4 месяцы ў год. Цяпер наконт нашых аб'ёмаў і асартыменту.

На канвееры зараз дзве базавыя мадэлі газавых пліт з габарытамі 600х600 і 500х530 мм. Дарэчы, апошняя больш практычная, паколькі можа ўпісацца ў інтэр'ер любой кухні і не будзе замінаць пры гэтым гаспадарам. Сёння смела можна казаць пра пашырэнне наменклатуры, паколькі раней мы выпускалі толькі адну базавую мадэль.

Дык вось, на базе двух мадэляў асвоена каля 10 мадыфікацый пліт з рознай ступенню камфортнасці. Ёсць самыя танныя пліты, якія па сваёй канструкцыі даволі простыя (так робіцца на Захадзе), а ёсць больш складаныя — з электрараспальваннем, грылем у духоўцы, матор-рэдуктарам.

А ўвогуле на базе названых мадэляў пліт можна вырабляць больш за 1000 мадыфікацый.

**— Як альтэрнатыва газавай не плануецца выпуск электрапліты?**

— Чаму ж? Па нашых прыкідках, з другога квартала наступнага года з канвеера завода будзе сходзіць некалькі мадыфікацый электрапліт.

**— З практычнага пункту гледжання, якую пліту лепш мець на кухні?**

— Адназначна і не скажаш. Камусьці падабаецца газавая, але пасля яе выкарыстання ўтвараюцца прадукты гарэння, таму кухню заўсёды пажадана праветрываць. А нехта аддае перавагу электрапліце, хоць яна і доўга разаграецца.

Аднак часам не ўсё залежыць толькі ад жадання навасёлаў. Па сусветных нормах, у 9-павярховых і вышэй дамах павінны быць устаноўлены толькі электрапліты. Гэта робіцца ў мэтах бяспекі.

**— Міхаіл Фадзеевіч, многія прадпрыемствы акрамя асноўнай прадукцыі выпускаюць пабочную. Зноў жа для пашырэння асартыменту і прыцягнення да сябе як мага больш пакупнікоў?**

— У гэтым плане ў нас усё ў парадку. АТ «Брэстгазаапарат» займаецца яшчэ вытворчасцю мікрахвалевых печаў, эмаліраванага посуду, паветраачышчальнікаў для кухні.

Некалькі месяцаў таму мы разам з нашымі екацярынбургскімі калегамі з сумеснага прадпрыемства «Тытан—Брэст» распрацавалі ў сябе вытворчасць мікрахвалевай печы «Combi», якая прыкладна на 30 працэнтаў менш металаёмістая за папярэднія. Гэта печ мае дысплей, дзе ў мультыплікацыі адлюстроўваюцца ўсе працэсы, што адбываюцца ўнутры печы. Яна мае добрую сістэму кіравання і захоўвае аб'ём рабочай камеры, дзе свабодна змяшчаецца 3-літровы слоік. Пры кансервацыі прадукцыі гэта вельмі важна. Да таго ж навінка мае грыль, а гэта значыць, што ежу можна не толькі разаграваць, але і проста гатаваць.

СВЧ «Комбі» па свайму дызайну нічым не адрозніваецца ад заходніх ці японскіх аналагаў. Праўда, каб запусціць яе ў серыйную вытворчасць, нам для падрыхтоўкі вытворчасці неабходна каля 700 тысяч амерыканскіх долараў ці інвестыцыі, эквівалентныя гэтай суме. Зараз мы займаемся пошукам грошай і спадзяёмся, што ў наступным годзе такую печ паставім на канвеер.

Яшчэ адзін з накірункаў выпуску СВЧ — мікрахвалевыя печы для прамысловых мэтаў: розных лабараторый, стаматалагічных кабінетаў, навукова-даследчых інстытутаў.

Ці ведаеце вы, што ў прамысловай мікрахвалевай печы пры магутнасці 0,6 кВт з дапамогай толькі аднаго магнітрана можна атрымаць тэмпературу ў тыглі звыш 1200°С? Пры такіх градусах метал можна плавіць. Для дасягнення такой тэмпературы патрэбна ўсяго толькі некалькі дзесяткаў хвілін.

У свой час такія печы пастаўляліся нам з-за мяжы, у асноўным са Швейцарыі і ЗША. І кошт такіх пакупак быў даволі ўнушальны — ад 25 тысяч $ і вышэй.

Сёння ж на базе гэтай бытавой печы, пры ўмове абсталявання яе некаторымі прыладамі і дапаможнымі матэрыяламі, мы можам выпусціць печ як мінімум у два разы таннейшую.

Спадзяёмся, што такая прадукцыя знойдзе свайго пакупніка. Зараз ужо праводзіцца маркетынгавае даследаванне.

Што датычыцца выпуску СВЧ, то ў гэтай справе мы ўжо не навічкі. З заводскага канвеера сышло ўжо звыш 5 тысяч печаў, але дызайн і параметры іх вымушалі жадаць лепшага.

**— Міхаіл Фадзеевіч, будзем спадзявацца, што ўсё, што вы пажадалі, стане ў хуткім часе рэальнасцю. А пакуль з'явілася пытанне наконт таго, як гэта акцыянернаму таварыству «Брэстгазаапарат» удалося ўтрымацца ў лодцы на хвалях рыначнай эканомікі. Многія ж аналагічныя прадпрыемствы і рэспублікі, і краін СНД зайшлі ў тупік. Кажуць, што вас выратавала дружба з расійскім акцыянерным таварыствам «Газпром», у якога зараз знаходзіцца кантрольны пакет акцый вашага прадпрыемства.**

— Сапраўды, вы маеце рацыю. Тое, што мы працуем у сістэме РАТ «Газпром», выратавала нас ад розных нечаканасцей і катаклізмаў дзесьці з 1992-га па 1996 г., хоць агульны стаж завода ў гэтай сістэме адлічваецца з 1965 года. «Газпром» мае 51 працэнт нашых акцый. Але створаны ён не за кошт продажу ў Расію ці прысваення нашай маёмасці, хоць такі варыянт мог і адбыцца. «Газпром» унёс свае інвестыцыі за кошт стварэння тут вытворчасці кранаў агульным коштам 33 мільёны дойчмарак. Дарэчы, на сённяшні дзень гэта лепшая вытворчасць ачаговых газавых кранаў у Еўропе. Дадам, што закуп «Газпромам» для АТ «Брэстгазаапарат» найноўшага абсталявання і стварэнне акцыянернага таварыства — гэта тыповы і, галоўнае, абасваны прыклад інтэграцыі з Расіяй.

**— Пра іншае абсталяванне, якое ёсць на заводзе, можна сказаць як пра сучаснае?**

— На жаль, не. Асноўнае абсталяванне, акрамя эмаль-цэха, эксплуатуецца звыш 17 гадоў. У кожным цэху патрэбна шмат чаго замяніць. Прывяду некаторыя лічбы: з 609 адзінак абсталявання 358 цалкам амартызаваныя.

За апошнія 8 гадоў, лічыце, не было сур'ёзнага абнаўлення, за выключэннем кранавага цэха, аб якім я ўжо сказаў.

Таму заводу неабходна радыкальнае тэхнічнае пераўзбраенне, для чаго трэба дзесьці 40 мільёнаў нямецкіх марак. Прама скажам, неажыццявімая мара...

**— Застаецца толькі развесці рукамі ці ўсё ж пашукаць нейкае выйсце. Увогуле, вы верыце ў нешта лепшае, светлае?**

— Калі шчыра, то без веры ў будучае амаль немагчыма працаваць.

З 1997 года мы пачынаем інвестыцыйную работу, спадзяёмся атрымаць крэдыты ў памеры 5 мільёнаў долараў ЗША.

Знешне можа падацца, што ў нас усё добра. Пагашаны запазычанасці перад РАТ «Газпром», спраўна плацяцца падаткі, якія маглі б быць і больш мяккімі, своечасова разлічваемся за энерганосьбіты, выплачваем зарплату больш чым дзвюм тысячам работнікаў акцыянернага таварыства.

На дзіва многім іншым прадпрыемствам рэспублікі, мы цалкам захавалі сацыяльную сферу: два дзіцячыя садзікі, санаторый-прафілакторый, цяпліцу, тры інтэрнаты.

Акрамя таго, зараз мы будуем два кааператыўныя дамы, адзін з якіх за кошт завода пабудаваны амаль на 70 працэнтаў.

**— Значыць, АТ «Брэстгазаапарат» будзе жыць?**

— Спадзяюся, што так яно і будзе. Тым больш, што работы ў нас на прадпрыемстве хопіць усім. Паводле неафіцыяльных даных, толькі ў Беларусі сёння патрабуюць замены каля 800 тысяч газавых пліт, г. зн. тэрмін выкарыстання іх цалкам вычарпаны і далейшае выкарыстанне ўжо небяспечнае.

Адна Масква мае патрэбы Беларусі, а ў цэлым па Расіі патрабуюць замены звыш 12 мільёнаў пліт.

Нават калі штогод будуць мяняцца 2-3 працэнты газавых пліт ад неабходнай колькасці, гэтага будзе дастаткова, каб адчуваць сябе надзейна і быць упэўненым у заўтрашнім дні.

І ўсё ж не хацелася б, каб у людзей склалася ўражанне, быццам бы на АТ «Брэстгазаапарат» усё ў ружовым колеры. Не. Праблем у нас шмат. І вырашаць іх далёка не проста, таму што не ўсё залежыць ад завода. Заўтрашні дзень і нашага прадпрыемства, і іншых будзе залежаць ад агульнай эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы.

**Матэрыялы рэкламна-інфармацыйнай старонкі падрыхтаваў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

**Асноўныя дылеры АТ «Брэстгазаапарат»**

*1. АТ «Седзін-Маркет», г. Краснадар*
*2. Кааператыў «Прамень», г. Іванава*
*3. ТПФ «Праммаркет», г. Перм*
*4. АТЗТ «Дуета», г. Шауляй*
*5. ЗАТ «Дуйіняй Прэтайсай», г. Каўнас*
*6. АТ «Волагдааблзаб», г. Волагда*
*7. ВКФ «Аура», г. Самара*
*8. ДП «Масгаз», г. Масква*
*9. ТАА «Сінт», г. Кіеў*
*10. МЧП «Бесей», г. Алматы*
*11. МП «Тытан», г. Екацярынбург*
*12. Белгандальімпэкс, г. Мінск*
*13. «Газкамплектімпэкс», г. Масква ДАТ РАТ «Газпром». Рэалізуе да 20 працэнтаў ад выпускаемых пліт.*



Новая распрацоўка СП «Тытан—Брэст» — мікрахвалевая печ «Combi».



У фірменным магазіне завода, які адкрыты ў Брэсце, можна купіць любую прадукцыю АТ «Брэстгазаапарат», асноўная з якой — сучасныя газавыя пліты.






Начальнік брэсцкай спецыялізаванай вытворчасці Станіслаў Камолаў і дырэктар расійскага філіяла сумеснага прадпрыемства «Тытан—Брэст» Яўген Сакалоўскі аглядаюць новую мадэль мікрахвалевай печы.




На заводзе пры дапамозе сістэмы аўтаматычнага праектавання (САПР) распрацоўваюцца канструктарская дакументацыя, дызайн, колер, мадэль будучай прадукцыі. Канструктар Аляксандр Катыла і інжынер-канструктар Ірына Саўчук сочаць за выхадам чарцяжа.



Работніца прадпрыемства Наталля Ільючык дэманструе адну з апошніх мадэляў газавай пліты «Gefest» 457-00.



## Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод: гарэлка — таксама прадукт, таму павінна быць вышэйшай якасці

*Міхаіл БЕЛАВУСАЎ, дырэктар Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода:*

# «ДЛЯ НАШАГА ПРАДПРЫЕМСТВА ГАЛОЎНАЕ — МАРКА ФІРМЫ І ПАТРЭБЫ ЛЮДЗЕЙ»

***Ад гарэлкі нам нікуды не дзецца. Можна казаць пра яе шкоду, сцвярджаць, што без чаркі не вырашыць амаль ніводнага пытання, але факт застаецца фактам — спіртныя напоі з'яўляюцца неад'емнай часткай рэчаіснасці і багатай крыніцай паступлення грошай у бюджэт. Пра Міхаіла Трыфанавіча БЕЛАВУСАВА — дырэктара Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода — мне казалі так: капітан у моры гарэлкі не прападзе. Калі з морам гарэлкі больш-менш усё зразумела, то наконт капітана ўзнікла неразуменне. У адказ пачуў: пагутарыш — сам зразумееш. Я і скарыстаўся парадай.***

**— Міхаіл Трыфанавіч, гарэлка з Клімавіч набыла папулярнасць параўнальна нядаўна. Раней перавагу аддавалі сталічным напоям. Што ў першую чаргу паспрыяла поспеху вашага прадпрыемства, якое знаходзіцца ў невялікім перыферыйным гарадку?**

— Найперш, дзякуй трэба сказаць майму папярэдніку Патоцкаму Уладзіміру Філіпавічу. Менавіта ён пачаў на заводзе наводзіць парадак. На жаль, на пасадзе прабыў усяго дзевяць гадоў. Захварэў і ў хуткім часе памёр. Я кірую заводам 16 гадоў. Памятаю гарбачоўска-лігачоўскую антыалкагольную кампанію, калі пачалі руйнаваць вытворчасці нашага профілю. Мне таксама «выкручвалі рукі». Але не паддаўся. Завод пачаў выпускаць безалкагольныя кактэйлі, гаспадарчым спосабам пабудавалі кандытарскі цэх. І толькі гэткім чынам неяк адбіліся. Калі шчыра, на ўсе тагачасныя глупствы кіраўніцтва краіны я даваў тры гады. Памыліўся на некалькі месяцаў. Усё вярнулася «на кругі свае» нават раней. Тыя ж, хто выкручваў рукі, пасля дзякавалі: малайчына, што захаваў прадпрыемства.

**— А што сабой уяўляюць вытворчыя магутнасці завода?**

— Калі можна так сказаць, сёння мы працуем на натуральнай гаспадарцы. У адмысловым цэху са спірту-сырцу робяць рэктыфікат. Там жа ідзе выраб гарэлак і іх разліў. У вінным цэху пастаянна вырабляюць горкія настойкі. Захавалі мы і кандытарскі цэх, хаця збыт прадукцыі даволі абмежаваны. У людзей няма грошай на печыва і астатнія прысмакі. Пабудавалі цэх па вырабу поліэтыленавых скрынак, хаця дазвол таксама было вельмі цяжка атрымаць. У спецыяльным цэху шыем вопратку для сваіх работнікаў. Ёсць і ўласная аўтабаза на 100 адзінак. Калі б не мелі яе, то працавалі б на чужую транспартную арганізацыю.

**— Колькі людзей на заводзе і якая зарплата ў іх?**

— Тут, у Клімавічах, — 620 чалавек. І яшчэ 110 — у філіяле, які знаходзіцца ў Касцюковічах. Што датычыць заробку, то для прадпрыемства, якое так папаўняе бюджэт, даволі невялікі — недзе 1 мільён 200 тысяч. Цяпер вельмі дарагія спірты і гаруча-змазачныя матэрыялы, таму рэнтабельнасць складае 10—15 працэнтаў.

**— Ужо не адзін год на беларускіх прадпрыемствах, ды і ў іншых рэспубліках былога СССР сітуацыя вельмі складаная. Вы ж не толькі трымаецеся на плаву, але і дасягаеце вялікіх поспехаў. Падзяліцеся сакрэтам. Тым больш, што зараз з'явілася мноства фірмаў і фірмачак, якія таксама выпускаюць гарэлку...**

— Думаю, многія ведаюць, што прадукцыя Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода адзначана не адным медалём, міжнароднымі дыпломамі. Галоўная прычына ў тым, што мы вельмі грунтоўна працуем над тэхналогіяй. Маем не адно аўтарскае пасведчанне, патэнты. Напрыклад, пачынаем працаваць над новым відам гарэлкі. Даводзім яе да пэўнай кандыцыі. Пераправяраем усе паказчыкі. Шмат якія віды нашай прадукцыі адпавядаюць міжнародным стандартам, а то і вышэй. Вядома, сакрэты прыгатавання напояў выдаваць не збіраюся. Многае залежыць ад сыравіны, тэхналогіі прыгатавання гарэлкі, яе ачысткі, вады. Гэта вельмі тонкі працэс. І моцна памыляецца той, хто лічыць, што, каб прыгатаваць гарэлку дастаткова разбавіць спірт вадой. А да з'яўлення мноства заводзікаў стаўлюся вельмі адмоўна. Бо яны наўрад ці калі дасягнуць добрай якасці. Там мае месца спрошчаная тэхналогія, нізкі ўзровень спецыялістаў. У нашых распрацоўках удзельнічае галоўны інжынер, начальнік цэха разліву, загадчык лабараторыі і ваш пакорны слуга.

**— Асабіста мне раней даводзілася ўжываць толькі белую «Рускую» гарэлку з Клімавіч. Якія маркі гарэлак і настоек яшчэ выпускаеце? І асабіста вы якому са сваіх напояў аддаяце перавагу?**

— Мне вельмі падабаецца наш апошні прадукт — «Залатая карона». Яна прыгатавана на спірце «Экстра» і змякчанай вадзе, якая праходзіць апрацоўку слабым электронным полем. Добрай якасці бальзам «Клімавіцкі». У яго састаў уваходзяць 23 найменні лекавых траў, пладоў і вострых прыпраў. Дабаўляецца мёд і каньяк. Бальзам выводзіць солі цяжкіх металаў і радыенукліды з арганізма чалавека. У хуткім часе павінны атрымаць з Францыі вельмі прыстойныя, арыгінальныя керамічныя бутэлькі. Гарэлка «Старaславянская», напрыклад, прыгатавана на спірце вышэйшай якасці з выкарыстаннем нетрадыцыйнага сарбента для вытворчасці гарэлак. Узнагароджана залатым медалём. На III міжнароднай выставе «Бістро-94» атрымала бронзавы медаль гарэлка «Клімавіцкая арыгінальная». Усяго ж наш завод выпускае ажно 8 розных відаў гарэлак. Да таго ж настойкі. Возьмем для прыкладу горкую настойку «Беларуская духмяная». Яна прыгатавана на морсе рабіны і настоях святаянніку, чабару, лафанту, з дабаўленнем цукровага сіропу і лімоннай кіслаты. Цікавы рэцэпт настойкі «Восеньская»: на спірце з дабаўленнем настояў хрэну, пятрушкі, кропу, фасолі і насення агуркоў.

**— Ніколі нават не ўяўляў, што і з гэтай агародніны можна вырабляць спіртныя напоі. А ці не прасцей займацца выпускам толькі аднаго віду?**

— Яно, можа, і прасцей. Але ж мы павінны думаць пра спажыўца. Сёння ён выпіў «Залатую карону», заўтра захоча паласавацца бальзамам, таму над асартыментам трэба пастаянна працаваць. Для нашага прадпрыемства галоўнае — марка фірмы і патрэбы людзей. Таму і стаўлюся скептычна да заводзікаў, якія выпускаюць псеўдагарэлку. Я б іх проста пазачыняў, каб не атручвалі людзей і не псавалі сыравіну. У нас было пяць лікёра-гарэлачных заводаў і каля дзесяці вінных. Але мы цалкам забяспечвалі патрэбы Беларусі. І нават пастаўлялі тавары за мяжу.

**— А можа прычына такога стану ў пашырэнні п'янства? На маю думку, цяпер людзі пачалі піць нашмат болей.**

— Не, колькасць спажываемых спіртных напояў на душу насельніцтва не змяняецца. П'яніца якраз будзе піць любы дэнатурат. Таму столькі атручэнняў спіртным. Прыстойны ж чалавек хоча выпіць і некага пачаставаць добрай гарэлкай.

**— У Беларусі мала добрых він. Яны ў большасці прывазныя. Можа, на Клімавіцкім заводзе збіраюцца ўзяцца і за іх выпуск?**

— Раней займаліся і гэтым. Калі ж развалiўся Савецкі Саюз і не стала адзінай грашовай адзінкі, мы вымушаны былі спыніць вытворчасць. Цяпер зноў яе аднавілі. Маем някепскія сувязі з Малдовай, адкуль паступаюць мадэра і партвейн.

**— Цяжка сёння жыць. Даводзіцца перабівацца ад зарплаты да авансу. Гэта пры ўмове, што яны своечасова выплачваюцца. Мала хто ўжо спадзяецца атрымаць жыллё. Баюся, і ў вас у сацыяльнай сферы не ўсё ладзіцца?**

— Чаму ж так песімістычна? На сённяшні дзень мы не скарацілі ніводнага чалавека. Наадварот, колькасць працаўнікоў павялічваецца. Год таму здалі адзін дом, сёлета — другі. Дарэчы, усе пенсіянеры карыстаюцца тымі ж дабротамі, што і работнікі прадпрыемства. Маем свой стаматалагічны кабінет, медпункт, добрую водалячэбніцу. Не трэба ехаць у санаторый. У лячэбніцы ў нас і сауна, і басейн, і падводны масаж, цыркулярны душ і мноства ваннаў. Мы закупляем адмысловыя экстракты. Усе памяшканні, між іншым, пабудаваны сваімі рукамі.

**— Агульнавядома, што на прадпрыемствах, асабліва дзяржаўных, няма грошай. Не могуць разлічыцца нават са сваімі работнікамі. Ці не ўзнікае праблем з плацяжамі?**

— Вялікія праблемы. Толькі гандлёвая сетка вінавата нам 270 мільярдаў.

**— Напэўна, галоўны ваш партнёр — дзяржаўныя ўстановы. Можа, усё ж выгадней супрацоўнічаць з камерсантамі? Яны ж маюць грошы.**

— Так, у асноўным працуем з дзяржавай. А наконт камерцыйных фірмаў у нашых калег ёсць горкі вопыт. Нейкае ТАА атрымлівае прадукцыю, а назаўтра знікае. Шукай ветру ў полі. Тым больш, наш тавар карыстаецца вялікім попытам і ў дзяржаўнай сетцы.

**— Ці выкарыстоўваеце бартэр?**

— Чаму ж не? Калі арганізацыя мае ліцэнзію на гандаль спіртным, а нам узамен прапаноўваюць мазут, мы заўсёды пагодзімся. Нават выгадна, бо грошы не трэба пераганяць праз банк.

**— Разумею, што дырэктару неяк не з рукі некага вылучаць са сваіх падначаленых. Тым не менш, ці ёсць тыя, на каго можна спадзявацца ў першую чаргу?**

— У большасці нашы людзі вельмі добрыя работнікі. Такая дэталь: за гэты год я аб'явіў усяго тры вымовы. Адзначу работу Галіны Васільеўны Асмалоўскай — начальніка цэха разліву, Веры Рыгораўны Іцанковай — загадчыцы лабараторыі, галоўнага бухгалтара Падабед Галіны Аляксандраўны.

**— Усяго тры вымовы? У вас жа, як бы гэта мякчэй сказаць, небяспечная вытворчасць. Вельмі спакушальная для аматараў «заліць за каўнер».**

— Праблем ніякіх няма. Людзі ў нас адказныя. Ды і разумеюць, што пры першым жа такім парушэнні страцяць работу.

**— Міхаіл Трыфанавіч, зразумела, грошай ад вашага завода ў бюджэт ідзе шмат. Але ці не маглі б вы назваць канкрэтную лічбу?**

— У сярэднім у месяц 110 мільярдаў рублёў. Часам даходзіць да 140. Спіртныя напоі — адна з крыніц паступлення сродкаў у бюджэт. Уявіце, якія страты панесла дзяржава падчас гарбачоўска-лігачоўскай антыгарэлачнай кампаніі! Яшчэ з часоў Пятра І існавала дзяржаўная манаполія на спіртное, і дзяржава мела моцную падтрымку.

**— Раскажыце крыху пра сябе.**

— Сам я мясцовы. Скончыў школу. Пяць з паловай гадоў адслужыў на флоце...

**— Цяпер разумею, чаму некаторыя вас называюць капітанам...**

— Пасля службы працаваў токарам, механікам, начальнікам цэха, намеснікам дырэктара камбіната будматэрыялаў. Дырэктар лікёра-гарэлачнага завода запрасіў намеснікам сюды. Доўга ўпіраўся. Ды дзе там! Раней як рабілася: не ўмееш — навучым, не хочаш — прымусім. Паралельна скончыў індустрыяльны тэхнікум, пасля — політэхнічны інстытут і вышэйшую партыйную школу.

**— Як вы ацэньваеце сённяшнюю палітычную сітуацыю ў Беларусі?**

— Трэба, каб рэспублікай кіраваў адзін чалавек. Калі ж кожны па-свойму пачне каманды даваць, нічога не атрымаецца. Вось у сям'і. Жыве бацька з сынамі. Тыя жэняцца, заводзяць дзяцей. Усё супольна, разам. Варта старому памерці, як пачынаецца дзяльба. А з ёй і клопаты. Патрэбен адзін гаспадар.

**— Але чалавеку ўласціва памыляцца...**

— Так. Таму патрэбны добрыя памочнікі, аднадумцы, якія клапаціліся б аб краіне. Крыўдна за дзяржаву. А некалі Беларусь была ледзь не самай моцнай рэспублікай СССР. Я ж на заводзе адзін таксама не спраўлюся. Галоўны інжынер адказвае за тэхнічную частку, адзін намеснік — за збыт, другі — за эканоміку. Але кіраўнік на заводзе адзін...

**— І апошняе пытанне. Стандартнае, банальнае, але неабходнае — пра планы на будучыню.**

— І далей будзем удасканальваць вытворчасць, тэхналогію. У хуткім часе пачынаем будаваць лікёрны цэх. Вельмі хочацца, каб не перарываліся сувязі з Малдовай. Работа з віном перспектыўная. На яго цэны свабодныя. Дарэчы, віно будзе вінаграднае, а не пладова-ягаднае ці, як у народзе кажуць, «чарніла». Бутэлка яго будзе каштаваць прыкладна 15-16 тысяч.

— Поспехаў вам.

**Гутарыў Міхась ТАЛОЧКА.**






# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 48 (67)



## ПРАДАЕЦЦА

■ Кватэра 3-пакаёвая ў цэнтры в. Ельня, 5 км ад г. Браслава Віцебскай вобл.
Тэл. 26-7-48.

■ Відэаплеер «Ташыба», баян «Масква», цэгла сілікатная (цана па дамоўленасці).
Слонімскі раён. Тэл. (8-01562) 91-3-60.

■ Жылы дом 7х14 у Івянцы Валожынскага раёна.
Тэл. 41-6-03.

■ Дом з гаспадарчымі пабудовамі, 5 км ад возера Нарач, 2 км ад возера Мядзел.
Тэл. (255) 2-41-53 з 17 гадзін.

■ Дом з прысядзібным ўчасткам і гаспадарчымі пабудовамі. Звяртацца: пас. Астрыно Шчучынскага раёна.
Тэл. 30-4-44.

■ Дом з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Куркулі Мядзельскага раёна.
Тэл. 58-9-79.

■ Дом, можна пад знос, альбо мяняю на «Масквіч» ці «Жыгулі» ў в. Акцябрская Вілейскага раёна.
Тэл. у Уздзе 32-4-18. Валерый.

■ Аўтамабіль «ВАЗ-2102» 1981 г. в., на хаду — 700 долараў.
г. Лунінец, тэл. 9-76-03.

■ Матаблок «МТЗ», прычэп, плуг.
г. Смаргонь. Тэл. 3-69-25.

■ Распыляльнік на «Мерседэс» альбо мяняю на з/часткі да «Жыгулёў»; з/часткі да «Масквіча»: лабавое шкло, карбюратар, стартэр, трамплер і інш.; радыятар вадзяны да «ГАЗ-52» (новы) альбо мяняю на 2 колы да «Жыгулёў»; генератар для міні-электрастанцыі, альбо мяняю на рызіну R-13.
г. Стоўбцы, тэл. (8-217) 5-23-55.

■ «Фольксваген-Гольф»-1, аварыйны на з/часткі, 1984 г. в.
Тэл. у Лагойску (8-274) 51-0-83.

■ Пярэднія крылы і тэнт аўтамашыны «УАЗ»; матацыкл «МТ», танна.
Звяртацца: г. Салігорск, в. Чыжэвічы, пас. Шахцёрскі, 13. Цесавец В. Ц.

■ «ВАЗ-21061» 1989 г. в., бэжавы, растаможаны, зняты з ўліку у г. Скідалі.
Тэл.: 8-22-99-67-38; 8-22-99-57-45.

■ «ВАЗ-21011» 1975 г. в., танна, у г. Міёры.
Тэл. (8-252) — 2-10-92.

■ Грузавік «ГАЗ-52-ОН», 1985 г. в., у добрым стане.
Тэл. у г. Капылі 50-4-66.

■ Ружжо ІЖ-43М, двухствольнае, 12-га калібру, чахол, патранташ у добрым стане.
Тэл. (8-256) 3-52-05.

■ Люстра Чыжэўскага, дапамагае пры лячэнні.
Тэл. у Івянцы (8-272) 51-1-33 вечарам.

■ Матацыкл «Днепр МТ-36-10» у добрым стане, прабег 9 тыс. км, 150 долараў.
Тэл. у Камарове 58-9-79.

■ Лес апілаваны на дом 10х12, вокны венскія, блокі фундаментныя.
Тэл. у г. п. Карэлічы 2-19-56, 2-20-82.

■ Машына для вытворчасці блокаў і цэглы.
г. Мінск, тэл. 266-98-91.

■ Аўтамабіль «Таўрыя» 1995 г. в., прабег 9 тыс. км. Званіць вечарам і па выхадных у Мазыр.
Тэл. 2-45-43.

■ Стэрэамагнітафон катушачны «Сатурн» на запчасткі, з катушкамі, 20 долараў.
Старадарожскі раён, в. Церабуты. Тэл. 56-7-53.

■ Тэлевізар «Гарызонт-206» на запчасткі, 500 тыс. руб.
Звяртацца: Бярэзінскі раён, тэл. 57-3-01.

■ Зруб 6,5х6,5 у Докшыцкім раёне, в. Гарэлае.
Тэл. для даведак 22-1-51 у Дзяржынскім раёне, в. Грычына.

■ Аўтамабіль «ГАЗ-24», 1978 г. в.
Тэл. у Мінску 266-98-91.

■ Рухавік ЗАЗ-968 М, КПП, дыскі колаў, паўвосі, амартызатары ў г. Міёры.
Тэл. (8-252) 2-91-61 пасля 19 гадзін.

■ «Масквіч-412» 1975 г. в. у добрым тэхнічным стане, 500 долараў.
Тэл. у Калінкавічах (8-2345) 57-3-53.

■ «ВАЗ-21011», 1978 г.в. — 1300 долараў.
Тэл. у г. Масты 8-215 (23-5-97).

## АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

**Аб. 234.** Буду рада знаёмству з сур'ёзным мужчынам ва ўзросце да 55 гадоў. Пра сябе: 48/164, удава, дзеці жывуць асобна, маю двухпакаёвую кватэру. Жыву ў раённым цэнтры.

**Аб. 235.** Двое ваеннаслужачых: Валерый — 19/180, Павел — 19/183 жадаюць пазнаёміцца з прыгожымі дзяўчатамі. Пажадана фота.

**Аб. 236.** Пазнаёмлюся з жанчынай да 45 гадоў для стварэння сям'і. Пра сябе: Стралец, 43/167/67. Жыву ў вёсцы, беларус.

**Аб. 237.** Пазнаёмлюся з мужчынам да 57 гадоў, не ніжэй за 170 см (Рак, Рыба, Цялец, Скарпіён). Пісаць па адрасу: 213822, г. Бабруйск, а/с 15.

**Аб. 238.** Пазнаёмлюся з добрай, чулай жанчынай для стварэння сям'і. Пра сябе: 38/176, Рыба, Кабан.

## *Віншаванні*

*Віншую дарагую матулю Марыну Мікалаеўну ПЛАЎСКУЮ з Новым годам. Жадаю доўгіх гадоў жыцця.*
**З павагай сын Ігар, г. Жодзіна.**

*Віншую з каталіцкімі Калядамі тату і матулю Ядвігу Адамаўну і Тадэвуша Іванавіча ПІШЧОЎ з в. Мазуркі. Жадаю моцнага здароўя і шчасця.*
**Дачка Ніна.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння дарагую дачушку Ірыну Сямёнаўну ДЗЕШЧАНКА з г. Хойнікі. Жадаем здароўя, шчасця і ўсяго самага найлепшага ў жыцці.*
**Мама, тата.**

Ад шчырага сэрца віншуем дарагога мужа, татачку і дзядулю Віктара Васільевіча РУДАКОЎСКАГА, дацэнта МДЛУ, з днём нараджэння і

*Жадаем моцнага здароўя,*
*Шчасліва ўсё жыццё пражыць,*
*Студэнтам, родным і знаёмым*
*Святло душы сваёй дарыць.*

**Жонка, дзеці, унукі.**

*Сардэчна віншуем дарагую сястру і цётачку Юлію Міхайлаўну ФАМІНУ з в. Свірыдавічы з днём нараджэння. Здароўя, шчасця табе, любая.*
**Сёстры Ніна, Марыя і іх сем'і.**

*Віншуем Наталлю Віктараўну КУНЦЭВІЧ з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту.*
**Кунцэвічы, в. Казловічы.**

*Віншую з надыходзячым Новым годам і нараджэннем Хрыстовым Рэгіну Браніславаўну і Станіслава Антонавіча ГРЭСКАЎ. Жадаю здароўя на доўгія гады.*
**Маскальчук Р. П., г. Гродна.**

*Віншуем з 18-годдзем унукаў Сяргея РАБУЕВІЧА з Ляхавіцкага раёна і Уладзіміра АСТРАВУХ з г. Маладзечна. Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у жыцці.*
**Бабуля Валя і дзед Андрэй з в. Ганькавічы.**

*Віншую з надыходзячым Новым годам і днём нараджэння дачку Таццяну Фёдараўну СУДАС. Жадаю моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у працы.*
**Казачэнка Ф. П.**

*Віншую са святам дарагога сябра ДРУЦЬКО Сяргея з г. Слуцка і яго абаяльную жонку Уладу. Шчасця вам і дабрабыту.*
**Яцыновіч Сяргей.**

*Сардэчна віншуем Валянціну Дзям'янаўну ШПЫЛЁВУ з г. Гродна са святам. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця.*
**Пажарыцкія з в. Старыя Журавічы.**

## РОЗНАЕ

● Генадзю Бураўкіну: Шаноўны, я схіляю галаву за Вашу «Малітву». Гэта гімн Беларусі, які закрануў людскія душы. Дзякуй Вам!
З павагай Сяргей Яцыновіч, г. Жодзіна.

● Згубленае пасведчанне інваліда II групы, выдадзенае на імя ЗЕЛЯНОВАЙ Святланы Адамаўны, лічыць несапраўдным.

● Абліцоўка пліткай, тынкавальныя работы (г. Міёры).
Тэл. (8-252) 2-10-92

● Куплю электрабаян «АРЫЁН», «Вельтмайстар» або іншыя імпартнай вытворчасці.
г. Узда, тэл. (8-218) 55-5-19, 55-9-77. Алег.

● Мяняю дом у г. Ельску Гомельскай вобласці на 1-2-пакаёвую кватэру ў пас. Чысць Маладзечанскага раёна, альбо прадам.
Тэл. у Чысці (8-01773) 99-8-70.

● Аказваем аўдытарскія паслугі.
Тэл. 227-94-46.

● Складаю індывідуальныя псіхалагічныя гараскопы па даце і часе нараджэння.
Тэл. 239-77-61.

● Прапаную работу на даму.
Звяртацца: 222310 г. Маладзечна-4, а/с 22.

● Шукаю работу на даму.
Мой адрас: Мінская вобл., Мядзельскі раён. в. Ст. Габы. Амельяновіч А. В.

● Прапаную лекавыя травы: зверабой, мелісу, корань валяр'яну і дзевясілу, крываўнік.
222620, г. Нясвіж, а/с 3.

● Прапаную работу на даму.
Звяртацца: 220050, г. Мінск, а/с 347 «З».

● Патрабуецца супрацоўнік для работы на даму — кароткую анкету, канверт.
Звяртацца: 220073, Мінск, а/с 48 «STL».

● Кладу печы, каміны любой канструкцыі.
Звяртацца: 222620, Нясвіж, а/с 3.
Тэл. (8-270) 5-57-91.

● Кнопкі металічныя для адзення прадаю, магчыма ўстаноўка.
Звяртацца: г. Беразіно, вул. Савецкая, 9, да 16 гадзін.

● Работу на даму, без спецнавыкаў.
Звяртацца: 223310, Беразіно, п/с 681034.

● Куплю рухавік «Опель-Кадэт» 1,3 л.
Тэл. у Баранавічах (8-01634) 5-25-46.

● Дом 7х10 з гаспадарчымі пабудовамі ў г. Косаве Брэсцкай вобласці (маецца водаправод, прыродны газ) мяняю на кватэру ў Мінску або прадам.
Тэл. у Мінску 253-89-93.

● Мяняю гараж-падвал ў г. Гродне на Навагрудак або прадаю.
Звяртацца: 231415, Гродзенская вобл., Навагрудскі раён, в. Бенін, д. 73 а.

## НАПЯРЭДАДНІ СВЯТАЎ НА КАМАРОЎЦЫ НАЗІРАЕЦЦА АБВАЛ ЦЭН

**Рознічныя цэны на харчовыя тавары на Камароўскім рынку г. Мінска:**

**Мяса (кг):**
свініна 45—90
ялавічына 30—75
бараніна 50—80
цяляціна 35—120
куры 39—44
сала свежае 38—48
сала салёнае 47—75.

**Малочныя прадукты:**
малако (л) 8—10
тварог (кг) 20—40
смятана 30—50
масла 50—65
Яйкі птушкафабрыкі 12—18
Яйкі хатнія 18—26
Алей 22—28.

**Крупы (кг):**
рыс 15—17
грэчка 13,5—15,5
цукар 9,7— 10,5
мука 8,5—11,5
фасоля 15—18

**Агародніна (кг):**
капуста 2,5—5
морква 3,5—15
таматы 30—50
цыбуля рэпчатая 4—6
часнок 40—60.

**Садавіна:**
яблыкі 7—20
вінаград 40—60
апельсіны 20—25
мандарыны 18—45
лімоны 30—40

**Кветкі (шт.):**
ружы 4—35
гваздзікі 3—9.

Тое, што адбылося з цэнамі на галоўным харчовым рынку краіны за два апошнія тыдні, нагадвае моцны выбух: свініна і ялавічына падаражэлі за гэты час на 10 тысяч, бараніна — на 12 тысяч, цяляціна — на 30 тысяч, салёнае сала — на 15 тысяч рублёў. На гэтым фоне зусім «несур'ёзным» выглядае падаражанне на 2-3 тыс. рублёў курынага мяса, яек, алею і малака. А вось смятана ўзнялася ў цане адразу на 20 тысяч, бо ў магазінах яе адшукаць немагчыма. Знікшы ж з продажу айчынны маргарын паўплываў на кошт масла: прыватнікі ўзнялі на яго цэны на 10—15 тысяч.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ПЕРШАЯ СВАБОДНАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ ЗОНА «БРЭСТ»

**У Беларусі ў пятніцу адбылося афіцыяльнае адкрыццё першай на тэрыторыі рэспублікі свабоднай эканамічнай зоны (СЭЗ) «Брэст».**

Як паведаміў першы намеснік міністра знешніх эканамічных сувязей Альберт Дабрамудраў, у рамках СЭЗ плануецца адпрацаваць механізм увядзення рыначных элементаў эканомікі, каб распаўсюдзіць атрыманы вопыт на ўсю рэспубліку. Асаблівую цікавасць, паводле яго слоў, мае магчымаць хуткага ўкаранення ў СЭЗ новых прагрэсіўных тэхналогій і арганізацыя выпуску канкурэнтаздольнай экспартнай і імпартазамяшчальнай прадукцыі.

З гэтай мэтай, адзначыў А. Дабрамудраў, для суб'ектаў гаспадарання, якія будуць дзейнічаць у СЭЗ, беларускім заканадаўствам прадугледжаны значныя падатковыя і мытныя льготы. Замежным інвестарам у сваю чаргу гарантуецца бесперашкоднае права на вываз за межы Беларусі прыбытку і капіталу, атрыманага ў выніку дзейнасці ў СЭЗ.

Паводле слоў першага намесніка міністра, «замежныя і айчынныя інвестары выказалі жаданне ўкласці ў развіццё СЭЗ «Брэст» каля 100 млн. долараў ЗША». Сярод найбольш значных праектаў — арганізацыя вытворчасці прадуктаў харчавання і посуду, выпуск медыцынскіх і бактэрыяльных прэпаратаў, дыетычнага і дзіцячага харчавання, абутку, спартыўнага адзення.

**ІНТЭРФАКС.**

